# КРЫВІНКА

ЛІСТАПАД
№15 (279)
2021 год

ІНФАРМАЦЫЙНА-КУЛЬТУРНАЯ ГАЗЕТА БЕШАНКОВІЦКАГА РАЁНА




МЕРКАВАННЕ РЭДАКТАРА

## ЧАМУ “НАВАТАР” СТАЎ АМАЛЬ БАНКРУТАМ?

**У далёкім 2015 годзе газета “Савецкая Беларусь” пісала: “Раён, які раней нічым асаблівым не вызначаўся, даў прырост малака 5 працэнтаў да папярэдняга года і стаў па гэтым паказчыку не толькі адным з лепшых у вобласці, але і ўвайшоў у трыццатку ў рэспубліцы. Дасягненне тым больш прыемнае, што яго забяспечылі не толькі за кошт адной-дзвюх моцных гаспадарак, такіх як ЗАТ “АСБ-АграНаватар”, дзе сёння дояць па 17 кілаграмаў малака ад каровы, але і нядаўніх серадняком — “Вядзерава”, “Палітаддзелец”, “Свіціна”.”**

Нагадаю, што кіраваў Бешанковіцкім раёнам з 2008 па 2017 год Леанід Пянькоўскі. 2015 год стаў для яго зорным часам. І ў раслінаводстве у 2015-м годзе ўраджайнасць зерневых культур у раёне склала больш за 40 цэнтнераў з гектара.

Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 25 сакавіка 2016 года за шматгадовую плённую працу і ўзорнае выкананне службовых абавязкаў Леаніду Пянькоўскаму прысвоена ганаровае званне «Заслужаны работнік сельскай гаспадаркі Рэспублікі Беларусь».

Але ўжо 5-га кастрычніка 2017 года былы старшыня Бешанковіцкага райвыканкама Леанід Пянькоўскі пачаў кіраваць гаспадаркай-гігантам Бешанковіцкага раёна ЗАТ “АграНаватар”.

Былога кіраўніка «Наватара» Дзмітрыя Петрашку, пры якім гаспадарка (адносна сённяшняга стану) працвітала, звольнілі. Ён з’ехаў за межы раёна. У прыватнай тэлефоннай размове ён мне тлумачыў, што звольніцца з «Наватара» было яго асабістым рашэннем. Але пазней ён распавядаў, што звольніцца яго ўсё ж “папрасілі”.

Пянькоўскі адпрацаваў дырэктарам “Наватара” два з паловай гады. Зразумела, што былы кіраўнік раёна штосьці чакае. І вось у самым пачатку сяўбы — 21-га красавіка 2020 года — ён звольніўся з гаспадаркі. У той жа дзень у Сеціве зъявілася інфармацыя, што Леанід Пянькоўскі прызначаны дырэктарам Баранавіцкай птушкафабрыкі, якая знаходзіцца ў падпарадкаванні Адміністрацыі справамі Прэзідэнта.

Сяўбу “Наватар” праводзіў без кіраўніка. Больш за месяц кіраўнічае крэсла “Наватара” заставалася вакантным. Звярталіся з прапановай і да Дзмітрыя Пятрашкі. Але паўторна ўзначаліць прадпрыемства ён адмовіўся.

У чэрвені 2020 года новым дырэктарам “Наватара” угаварылі стаць маладога Андрэя Піскунова.

“Віцебскія весці” пісалі пра яго так: “Новы кіраўнік у ЗАТ "ААБ-Агра Наватар" прыйшоў у самы складаны і інтэнсіўны перыяд для аграрыяў - уборачную кампанію. Перад ім стаяла няпростая задача - ліквідаваць сур'ёзныя недахопы, пры гэтым не змяншаць зададзены тэмп у працы. Кіраўнік ЗАТ "ААБ-Агра Наватар" мэтанакіравана глядзіць у будучыню, у яго амбіцыйныя планы…

І вось у выніку ўсяго, апрацаваўшы менш за паўтара года, у лістападзе 2021 года Андрэй Піскуноў быў звольнены з пасады. Новым кіраўніком прадпрыемства стаў вопытны Алег Скрабнеўскі, які раней працаваў намеснікам старшыні Глыбоцкага райвыканкама, а потым генеральным дырэктарам Глыбоцкага камбікормавага завода.

Які лёс чакае “Наватар” далей? Уздым ці падзенне?

**Г.Станкевіч**

*P.S. Пастановай ад 19-га лютага 2021 года №98 "ААБ-Агра Наватар" было спісана даўгоў на суму 14 мільёнаў 912 тысяч беларускіх рублёў.*

****

*Восень скінула лістоў параджу,*
*апранула шынялёў строгі строй.*
*Мокры клён у пацалунках дажджу*
*не зважае на мінорны настрой.*

*Ён у кроплях, нібы ў пацерках зор,*
*і з чырвоным неапаўшым лістом,*
*як са сцягам непакорны лінкор,*
*не збіраецца да зімкі ў палон.*

**Г. Станкевіч**



СЯМ’Я

## ГВАЛТ У СЯМ’І — НЕ РЭДКАСЦЬ

**23 разы Бешанковіцкім РАУС вынасіліся сёлета ахоўныя прадпісанні, пасля чаго гвалтаўнік выдаляўся з жылля, сумеснага з ахвярай гвалту.**

Для гвалтаўнікоў у Бешанковіцкім раёне створаны спецыяльныя пакой, куды іх забіраюць пасля складання ахоўнага прадпісання. Ахоўным прадпісаннем грамадзяніну, у адносінах да якога яно вынесена, на тэрмін ад 3 да 30 сутак забараняецца:

- прадпрымаць спробы высвятляць месца знаходжання чалавека, які пацярпеў ад гвалту ў сям'і;
- наведваць месцы знаходжання чалавека, які пацярпеў ад насілля ў сям'і, калі гэты чалавек часова знаходзіцца па-за сумесным месцам жыхарства або месцам знаходжання з грамадзянінам, у дачыненні да якога вынесена ахоўнае прадпісанне;
- размаўляць з чалавек, які пацярпеў ад гвалту ў сям'і, у тым ліку па тэлефоне, або з выкарыстаннем глабальнай камп'ютарнай сеткі Інтэрнэт.

Акрамя таго, у раёне існуе «крызісны пакой» для ахвяраў сямейнага гвалту, у якім дадзеныя асобы могуць бясплатна знаходзіцца да 30 дзён. За ўказаны час ім аказваецца ўвесь спектр дапамогі, у тым ліку псіхалагічнай, для пераадолення негатыўных наступстваў аказанага на іх супрацьпраўнага ўздзеяння.

За невыкананне патрабаванняў ахоўных прадпісанняў у адносінах да асоб, якія іх не выконваюць, магчыма прымяненне мер адміністрацыйнага ўздзеяння шляхам складання пратаколаў аб адміністрацыйным правапарушэнні па ч. 2 арт.10.1 КаАП Рэспублікі Беларусь.

Для асоб, якія пацярпелі ад хатняга гвалту, дзейнічае агульнанацыянальная «гарачая лінія» (8-801-100-8-801), з дапамогай якой можна бясплатна, ананімна атрымаць кансультацыю па пытаннях гвалту ў сям'і.

**Газета “Зара”**

АБМЕРКАВАННЕ

## ЦІ ПАТРЭБНА АГАРОДЖА?

**Старажытныя яўрэйскія могіл-кі ў Бешанковічах знаходзіцца ў лясным масіве паблізу раён-най ветэрынарнай станцыі і займаюць плошчу больш за 4 гектары. У 2015 годзе сіламі валанцёраў пачалося аднаўленне гэтага ўнікальнага месца.**

За 4 гады тут удалося падняць і ўсталяваць больш за тысячу надмагільных камянёў-мацэваў. Дзякуючы намаганням неабыякавых людзей, тэрыторыя цвінтара была добраўпарадкавана, а пахаванні перапісаныя і нанесеныя на карту.

Аднак пакуль у могілак няма агароджы. Ці патрэбна яна тут і, калі так, то якой павінна быць?

Раённы выканаўчы камітэт афіцыйна аб'явіў аб пачатку абмеркаванняў наконт агароджы яўрэйскіх могілак.

Прапановы і заўвагі жыхароў раёна будуць прымацца:

— у раённым выканаўчым камітэце па тэлефоне - 6-42-45, e-mail - beshrik@vitebsk.by;

— у рэдакцыі “Зары” па тэлефоне - 6-53-39, e-mail - zarabesh@yandex.ru.

***“Зара”***

КРЫМІНАЛ

## ЗАВЕРШАНА РАССЛЕДАВАННЕ ДТЗ

**Збітага мужчыну знайшлі ў кювеце дарогі М-3 «Менск - Віцебск» даяркі фермы Бачэй-кава Бешанковіцкага раёна раніцай 3-га снежня 2020 года.**

Калі яшчэ зацемна ішлі на ранішнюю дойку, даяркі ўбачылі на дарозе пляму крыві. Агледзеўшыся, яны знайшлі ў кювеце цела мясцовага 58-гадовага зваршчыка.

Пазней экспертыза выявіць, што атрыманыя пешаходам траўмы не з'яўляліся несумяшчальнымі з жыццём, бо пасля іх прычынення той мог жыць некаторы прамежак часу, які вызначаецца дзясяткамі хвілін, па заканчэнні якога наступіла б яго смерць. Гэта значыць вадзіцель кінуў параненага чалавека паміраць.

Як высветліла следства, увечары 2-га снежня 41-гадовы жыхар Лёзна ехаў фуры па дарозе М-3 «Менск - Віцебск» на тэрыторыі Бешанковіцкага раёна. На 192-м кіламетры ён убачыў чалавека, які пераходзіў праезную частку. Дальнабойнік затармазіў, фуру вынесла на паласу сустрэчнага руху, дзе пад яе і трапіў пацярпелы.

Замест таго, каб выклікаць на месца ДТЗ дапамогу, вадзіцель перацягнуў пацярпелага ў кювет і ўцёк з месца здарэння. Праз некаторы час ён замяніў пашкоджаныя дэталі аўтацягніка на новыя.

Віноўніка ДТЗ знайшлі і затрымалі праз суткі ў Лёзне. Да гэтага часу ён паспеў ужо адрамантаваць сваю фуру ў Мінску.

Паводле звестак аўтатэхнічнай экспертызы, фура ехала з хуткасцю 90 км/г, дапушчальная на гэтым участку дарогі хуткасць руху была перавышана на 20 км/г.

Па выніках расследавання 41-гадоваму дальнабою прад'явілі абвінавачанне па частцы 2 артыкула 317 КК (парушэнне правілаў дарожнага руху асобай, якая кіруе транспартным сродкам, што пацягнула па неасцярожнасці смерць чалавека) і часткі 3 артыкула 159 КК (заведамае пакіданне ў небяспецы, учыненае па неасцярожнасці, якое паставіла пацярпелага ў небяспечны для жыцця і здароўя стан).

Раней ён судзімы не быў. Расследаванне гэтай крымінальнай справы завершана праз 11 месяцаў, яго матэрыялы перадалі пракурору для накіравання ў суд, паведамляе афіцыйны прадстаўнік УСК па Віцебскай вобласці Аксана Лазько.

**А.Тутэйшы**
**паводле сайта sk.gov.by**

СУПРАЦОЎНІЦТВА

# ЗНІШЧЭННЕ ХІМІКАТАЎ

**У Беларусі пачаты вываз непрыдатных ядахімікатаў у нямецкі горад Гамбург на спецыялізаванае прадпрыемства па экалагічна бяспечным знішчэнні небяспечных адходаў AVG GmbH.**

У 17 раёнах Віцебскай вобласці як спадчына мінулых дзесяцігоддзяў назапасілася больш як 500т непрыдатных або забароненых да прымя-нення пестыцыдаў, у тым ліку тых, што аднасяцца да стойкіх арганічных забрудж-вальнікаў, пераважна ДДТ і гексахлорцыклагексану.

Частка з іх утварылася ў сельскагаспадарчых прадпры-емстваў з-за заканчэння тэрміну прыдатнасці аграхімікатаў.

Чарговая адпраўка партыі непрыдатных пестыцыдаў у Германію адбылася 14-га кастрычніка са склада ААТ «Шаркаўшчынскі агратэхсэрвіс».

Завяршыць вываз непрыдат-ных пестыцыдаў на экалагічна бяспечнае знішчэнне плануец-ца ў 2022 годзе.

**А.Тутэйшы з сайта СБ**

СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА

# ЦІ ДАСТАТКОВА ГУДЗЕЦЬ ДЫ ШУМЕЦЬ?

**У канцы кастрычніка 2021 года Аляксандр Лукашэнка шмат увагі ўдзяліў сельскай гаспадарцы. Хаця, трэба сказаць, гэтая тэма ўсплывае заўсёды, калі ён выязджае ў глыбінку.**

Так, напрыклад, першае пытанне па прылёце ў Ліду, дзе ў раённай бальніцы абмяркоўвалася барацьба з каранавірусам, было не аб эпідэміялагічнай сітуацыі ў раёне, а «што ў цябе засталося прыбірацъ?» Галоўнае, што цікавіла кіраўніка краіны, — ці паспеюць да снегу сабраць кукурузу і як ідзе ўзворванне зябліва.

Адчытваючы старшыню Мінскага аблвыканкама Аляксандра Турчына, Лукашэнка заявіў: «Мне тут не эканоміка ўжо патрэбна, а арганізацыя. <...> Трэба арганізаваць справу, каб гуло і шумела зараз у палях, бо [інакш] застанемся без хлеба».

**Прыбытак нашмат менш датацый**

Між тым на сёлетні ўраджай збожжавых (а ён ніжэйшы за леташні на 30%) звярнулі ўвагу ў сваёй справаздачы эксперты Еўразійскага банка развіцця: «У верасні рост ВУП заставаўся ніжэйшы за 1% гадавых галоўным чынам з-за скарачэння на 13,7% гадавых сельскагаспадарчай вытворчасці». .

То бок сельская гаспадарка тармозіць эканоміку, зніжэнне яе паказчыкаў негатыўна адбіваецца на росце ВУП.

У той жа час беларускі эканаміст Яраслаў Раманчук у каментары для БелаПАН выказаў меркаванне, што асноўная прычына зніжэння тэмпаў росту ВУП крыецца «ў самой структуры эканомікі Беларусі і тых прававых рамках, у якія беларускія ўлады яе паставілі».

«У сітуацыі, калі абнулена правы, калі краіна знаходзіцца ў самаізаляцыі і вядзе гандлёвыя войны з суседзямі, калі замарожаны інвестыцыі, ВУП прадказальна павінен упасці», — адзначыў ён.

Дрэнныя ж паказчыкі сельскай гаспадаркі, гаворыць эксперт, тлумачацца неэфектыўным расходаваннем тых сродкаў, якія запампоўваюцца ў аграпрамысловы комплекс (АПК), і захаваннем дзяржаўнай уласнасці на зямлю.

«У рэжыме калгасаў ды саўгасаў галіна эфектыўна працаваць ня можа», — кажа эканаміст.

У Беларусі, паводле яго даных, чысты прыбытак сельскай гаспадаркі складае толькі 15 адсоткаў ад таго аб'ёму датацый, якія яна штогод атрымлівае ад дзяржавы.

**Сумныя рэкорды**

Паводле звестак Белстата, у студзені — верасні ў гаспадарках усіх катэгорый — сельскагаспадарчых арганізацыях, сялянскіх (фермерскіх) гаспадарках, гаспадарках насельніцтва — вытворчасць прадукцыі ў бягучых цэнах склала 17,7 млрд рублёў, або ў супастаўных цэнах на 6,6% менш за ўзровень студзеня — верасня 2020 года. Гэта другі пасля будаўнічага сектара найгоршы вынік працы ў эканоміцы за дзевяць месяцаў.

Па даўгах АПК таксама б'е рэкорды: на 1 верасня сумарныя даўгі ў сельскай гаспадарцы склалі 16,3 млрд рублёў.

Унутраная дэбіторская запазычанасць дасягнула 1.959.000.000 рублёў — гэта гістарычны максімум па памеры абавязацельстваў аграрыяў. Крэдыторская запазычанасць у АПК таксама зашкальвае — 9,859 млрд рублёў.

З пачатку 2021 года памер сукупнай запазычанасці ў сельскай гаспадарцы вырас на 9,3%. Сумарная запазычанасць сельскай гаспадаркі на парадак перавышае яе выручку.

Пры гэтым выдаткі кансалідаванага бюджэту на АПК у 2021 годзе складаюць больш за 2 млрд рублёў — гэта прачытай у 1,5 разы больш, чым у мінулым годзе.

**Якая аддача ад кампутараў ды робатаў?**

У галіне, паводле даных за 2020 год, заняты 7,2 адсоткі насельніцтва, але тэндэнцыя да скарачэння колькасці работнікаў упэўнена захоўваецца.

«З сельскай мясцовасці ідзе істотны адток людзей, паколькі добрай працы няма, а атрымліваць 300 рублёў і дзякаваць за гэта ўладзе — гэта відавочна не той сюжэт, які ўсміхаецца моладзі», — зазначае Раманчук.

Паводле звестак Белстата, за восем месяцаў па аграсектары было звольнена 63 тысячы работнікаў, прынята на працу 59 тысяч. Такім чынам, чысты адток склаў чатыры тысячы (за верасень — 1829).

У нядаўнім інтэрв'ю газеце «Звязда» міністр сельскай гаспадаркі і харчавання Іван Крупко запэўніваў, што «сельская гаспадарка інтэнсіўна развіваецца, у вытворчасць укараняюцца інавацыйныя тэхналогіі, на палі ды фермы прыходзяць робаты, укараняюцца біятэхналогіі, актыўна прымяняюцца найноўшыя навуковыя распрацоўкі і дасягненні».

Аднак наяўнасць кампутараў у кабінетах і робатаў на фермах яшчэ не гарантуе, што новая тэхніка выкарыстоўваецца правільна і эфектыўна. Па меншай меры, для гэтага патрэбны дасведчанныя спецыялісты, а моладзь з вёскі з'язджае.

**Зямлі патрэбен гаспадар**

Пры гэтым у беларускіх фермерскіх гаспадарак якасныя паказчыкі ў пяць-шэсць разоў лепшыя, чым у дзяржаўных сельгасарганізацый, адзначыў Раманчук.

«Але гэта не пераконвае беларускія ўлады, таму што перад гэтым сектарам не ставяцца задачы рабіць якасныя прадукты і зарабляць», — выказаў меркаванне эксперт.

Па вялікім рахунку, Лукашэнка і не ўтойвае, што высокія эканамічныя паказчыкі сельскай гаспадаркі для яго не на першым плане. Штогадовыя фінансавыя ўліванні — гэта свайго роду сацыяльная дапамога глыбінцы. «Мы падтрымліваем сельскую гаспадарку, сельгаспрадпрыемствы, таму што яны глядзяць за вёскамі», — патлумачыў Лукашэнка ў адной з паездак летам гэтага года.

Ці магчыма ў прынцыпе, каб беларуская сельская гаспадарка была эфектыўнай і прыбытковай? Так, адказвае Раманчук, але для гэтага трэба вырашыць галоўнае пытанне — аддаць зямлю ва ўласнасць. «З гэтага трэба пачынаць. Калі ў зямлі будуць гаспадары, пытанне эфектыўнасці вырашыцца аўтаматычна», — упэўнены эксперт.

Сусветны вопыт даўно ўжо даказаў — менавіта прыватнік хутчэй рэагуе на патрэбы рынку. Ёсць шмат прыкладаў таго, як гэта працуе, працягнуў аналітык.

«Узяць, напрыклад, сельскую гаспадарку Новай Зеландыі, у якой 60% экспарту — сельгаспрадукцыя. Чылі і Нідэрланды таксама зарабляюць на сельскай гаспадарцы дзясяткі мільярдаў долараў. Без датацый, без асаблівага ўдзелу дзяржавы, пры захаванні экалагічных стандартаў людзі атрымліваюць добрыя фінансавыя паказчыкі — гэта проста бізнес», — падкрэсліў Раманчук.

**naviny.online**

COVID-19

# ДВА ЛЕКІ ЛЯЧЭННЯ КАРОНЫ

**Камітэт па лекавых сродках для людзей Еўрапейскага агенцтва па лекавых сродках (ЕМА) рэкамендаваў дазволіць выкарыстанне прэпаратаў Ronapreve ад амерыкана-швейцарскай кампаніі Regeneron-Roche і Regkirona ад паўднёвакарэйскага вытворцы для лячэння COVID-19. Пра гэта паведамляе прэс-служба ЕМА.**

Камітэт рэкамендаваў дазволіць Ronapreve для лячэння каранавіруса ў дарослых і падлеткаў (ад 12 гадоў і вагой не менш за 40 кг), якім не патрабуецца дадатковы кісларод і якія падвяргаюцца падвышанай рызыцы сур'ёзнага цячэння захворвання.

Ronapreve таксама можна выкарыстоўваць для прафілактыкі COVID-19 у людзей ва ўзросце ад 12 гадоў і болей з масай цела не менш 40 кг.

Што тычыцца Regkirona, камітэт рэкамендаваў дазволіць гэтыя лекі для лячэння дарослых з COVID-19, якія не маюць патрэбы ў дадатковым кіслародзе і якія таксама падвяргаюцца падвышанай рызыцы сур'ёзнага захворвання.

Рэкамендацыі накіраваныя ў Еўрапейскую камісію для прыняцця далейшых юрыдычных рашэнняў.

Ronapreve і Regkirona — першыя лекі з монакланальнымі антыцеламі, якія атрымалі станоўчае заключэнне камітэта па лекавых сродках. Раней станоўчае заключэнне атрымаў толькі Veklury (рэмдэсівір).

Монакланальныя антыцелы — гэта бялкі, прызначаныя для прымацавання да пэўнай мішэні, у дадзеным выпадку да бялку-шыпа SARS-CoV-2, які вірус выкарыстоўвае для пранікнення ў клеткі чалавека.

Даследаванні паказалі, што лячэнне ранапрэвам або рэгкіронам значна зніжае колькасць шпіталізацыі і смерцяў у пацыентаў з COVID-19, схільных да цяжкага цячэння хваробы. Іншае даследаванне паказала, што ранапрэў зніжае верагоднасць заражэння COVID-19, калі адзін з членаў сям'і інфікаваны SARS-CoV-2.

**Nashaniva.com**

# СІТУАЦЫЯ З КАРАНАВІРУСАМ У РАСІІ І ГЕРМАНІІ

**Колькасць пацверджаных выпадкаў заражэння каранавірусам у Расіі ўзрасла за 4-га лістапада 2021 года на 40 735, да 8 714 595. Пра гэта паведамілі ў пятніцу ў федэральным аператыўным штабе па барацьбе з новай інфекцыяй.**

Трэці дзень колькасць новых захварэлых перавышае 40 тысяч.

У цяперашні час у Расіі працягваюць лячэнне 964 177 чалавек.

Колькасць смяротных зыходаў з-за каранавіруса за суткі ўзрасла на 1192 супраць 1195 днём раней.

Усяго з пачатку эпідэміі памерлі 244.447 пацыентаў.

**Сітуацыя ў Маскве.**

Колькасць тых, хто заразіўся каранавірусам, у Маскве павялічылася за суткі на 6407 супраць 6305 днём раней.

Усяго з пачатку эпідэміі было выяўлена 1 849 769 выпадкаў заражэння. У адносным выражэнні прырост склаў 0,35%. Колькасць смяротных зыходаў у Маскве павялічылася за суткі 93 супраць 97 днём раней. Усяго ў Маскве памёр 31821 чалавек.

За суткі былі выпісаны 6 024 пацыенты. За ўвесь час вылечыліся 1 624 648 чалавек. Цяпер у сталіцы працягваюць лячэнне 193.300 чалавек.

**Сітуацыя ў Германіі.**

У Германіі другі дзень фіксуюцца рэкордныя паказчыкі сутачных заражэнняў каранавірусам. Па дадзеных Інстытута імя Роберта Коха (RKI), 4-га лістапада 2021 года на COVID-19 захварэлі яшчэ 37120 чалавек, што з'яўляецца максімальным паказчыкам з пачатку пандэміі ў краіне.

Агульная колькасць зарэгістраваных выпадкаў заражэння COVID-19 у Германіі ўзрасла да 4 709 488.

На мінулым тыдні ў краіне фіксавалі 24 668 выпадкаў за суткі.

Агульная колькасць памерлых у Германіі з пачатку пандэміі складае 96 346 чалавек.

**А.Тутэйшы**

## АБ'ЯВА

*• Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Крывінка» паведаміце рэдакцыі аб гэтым. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.*

*• Калі прачыталі "Крывінку", то калі ласка, перадайце знаёмым.*

*• Наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamnikat.org/"kryvinka.html каталагу "Пэрыёдыка" для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.*

ЛІКВІДАЦЫЯ

# «ПАД КАНЕЦ СВАЙГО ІСНАВАННЯ РЭЖЫМ СКІНУЎ УСЕ МАСКІ»

**Вярхоўны суд задаволіў пазоў Міністэрства юстыцыі і ліквідаваў адно са знакавых грамадскіх аб'яднанняў — Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны (ТБМ). З нагоды таго, што адбылося, Филин пагутарыў аб іміджавых стратах і духоўным набыцці з філосафам, рэдактарам часопісу ARCHE Валерам Булгакавым.**



— Я думаю, тут разлік на тое, каб спецыяльна ліквідаваць іміджавыя арганізацыі. Каб нанесці ўдар па тых структурах грамадзянскай супольнасці, якія ведае фактычна кожны палітычна актыўны чалавек у Беларусі, і тая публіка за мяжой, якая цікавіцца беларускай палітыкай.

Перш за ўсё гэта робіцца дзеля застрашэння. З разлікам на тое, што ў звычайнага абывацеля, які пабачыць, што справы дайшлі да ліквідацыі так званых кітоў грамадзянскай супольнасці, якія існавалі ў Беларусі апошнія 30 гадоў, гэта можа рэфлекторна выклікаць паніку, страх, баязнь у сувязі з тым, што і да яго таксама можа дайсці чарга.

Па-другое, беспрэцэдэнтнае закручванне гаек у палітычнай сферы — гэта, безумоўна, знак унутраным і знешнім назіральнікам аб тым, што мы фактычна падыходзім да ўзроўню позніх савецкіх часоў. І ТБМ, і ПЭН-цэнтр, і БНФ, і шэраг іншых структур узніклі на хвалі перабудовы. ТБМ з'явілася ў 1989-90 гадах.

На ўзроўні палітычных мэсэджаў, якія дасылаюць цяперашнія беларускія ўлады, мы бачым, што яны робяць курс на вяртанне да познесавецкага палітычнага ландшафту, калі існавалі толькі афіцыйна дазволеныя грамадскія аб'яднанні, ці то «общество женщин», «общество борьбы за мир», пазней «общество трезвенников» і гэтак далей.

І гэта вельмі небяспечны знак, паколькі калі гэта дынаміка будзе працягвацца, то пад ударам прымусовай ліквідацыі апынуцца тыя астраўкі свабоды і вольнадумства, якія яшчэ ёсць.

***— А яны яшчэ ёсць у нас?***

— Ёсць шэраг драбнейшых структур, якія маюць статус афіцыйна зарэгістраваных. Тыя ж палітычныя партыі, якія маюць апазіцыйныя погляды да кіруючага рэжыму. Яны зараз праходзяць перарэгістрацыю, але ж пытанне яшчэ адкрыта.

Апрача гэтага застаюцца нейкія раней зарэгістраваныя СМІ, накшталт «Народнай Волі» Іосіфа Сярэдзіча.

І калі іх не застанецца, Беларусь ператворыцца ў БССР узору 1985-86 гадоў.

Атрымалася, што пад канец свайго існавання лукашэнкаўскі рэжым нарэшце скінуў усе маскі. Усё, што адбываецца, мае яшчэ дадатковы сэнс у плане канфрантацыі з Захадам, бо не сакрэт, што шмат якія грамадскія арганізацыі ўспрымаліся кіруючай уладай як «кліентура Захада».

Прычым, я маю на ўвазе перш за ўсё грамадскія арганізацыі, якія займаліся тымі ж гендэрнымі ці экалагічнымі праблемамі. Таму гэта мае яшчэ і знешнепалітычны аспект. Гэта адзін са знакавых сімптомаў буйнамаштабнай канфрантацыі з Захадам.

Пасланне тут відавочна: мы знішчым вашу «кліентуру», калі вы не прымеце нашы ўмовы — прызнанне Лукашэнкі як законна абранага прэзідэнта і ўвогуле гарантаванне статуса-кво, якое існавала да прэзідэнцкіх выбараў.

***— А ці зможа таварыства аднавіць сваю працу, як некаторыя НДА, за мяжой?***

— Для самога таварыства наладзіць працу дзесьці за мяжой не вельмі зручна, як, напрыклад, для тых жа курсаў «Мова Нанова». Бо ТБМ — гэта была арганізацыя, якая праграмна вяла сваю дзейнасць у Беларусі, якая спрабавала наладжваць дыялог з уладамі, якая спрабавала наладзіць першы беларускі ўніверсітэт, якая мела два зарэгістраваныя СМІ — «Новы Час» і «Наша слова». Усім сваім статусам і сваёй праграмай арганізацыя была моцна ўкаранёна да Беларусі.

Я не думаю, што яе можна перавезці за мяжу цалкам, але за мяжу можна будзе вынесці нейкія фрагменты дзейнасці, тыя ж СМІ, нейкія навучальныя адукацыйныя праекты. Але як арганізацыя, якая працавала з беларускімі школьнікамі, са студэнтамі, выкладчыкамі, лакальнымі ўладамі, — яна не зможа па-за межамі ў такім выглядзе функцыяваць.

***— Якія думкі ў вас наогул выклікае тое, што зараз адбываецца з усім, што мае дачыненне да беларускай мовы?***

— Беларусь — дэ-факта расейскамоўная краіна. Мы бачым, што беларуская мова ў апошнія дзесяцігоддзі ў нашым грамадстве паўнавартасна не функцыянуе. Лукашэнкаўскі рэжым у гэтым пытанні падыходзіць так, як падыходзілі тыя ж савецкія кіраўнікі ў апошнія часы. Я нагадаю, што ў 1985-86 гадах у Мінску не было ніводнай школы з навучаннем на беларускай мове.

Таму зараз не адбываецца нічога новага. Гэта вяртанне да змрочнай познесавецкай рэальнасці. Але ў сучаснай сітуацыі ўсё ж такі беларуская супольнасць мае большую свабоду дзеяння — ёсць прыватныя выдавецтвы, ёсць прыватныя грамадскія ініцыятывы, ёсць курсы «Мова Нанова», ёсць маса іншых сфер, дзе можна захоўваць сваю ідэнтычнасць.

***— Вы кажаце аб усім гэтым ў цяперашнім часе? Бо шмат чаго з пералічанага зараз ліквідавана.***

— Так, я хачу сказаць, што ўвесь гэты ідэалагічны дыктат хутчэй за ўсё не будзе мець ніякіх наступстваў. Бо дзяржава не мае бясконцую колькасць рэсурсаў, каб зусім задушыць беларускамоўных людзей. Наадварот, людзі яшчэ больш мабілізуюцца, каб даць адпаведны адказ на ўсе гэтыя выклікі.

Я не аднашуся да гэтый ліквідацыі, як да чагосьці канчатковага. Гэта палітычная рэакцыя закручвання гаек па звычайным савецкім сцэнары рэжама, які летась крыху не сканаў. Таму думаць, што зараз яны наносяць нейкі смяротны ўдар — не.

Але ж мы павінны быць гатовыя да таго, што беларускае грамадства рэальна падзелена. Шмат для якіх беларусаў беларуская мова не з'яўляецца каштоўнасцю — і гэта рэальная праблема, на якой будуць спекуляваць і іншыя палітыкі, якія прыйдуць ужо наўзамен Лукашэнкі.

Цяпер адбываецца драма, не хачу казаць, што гэта трагедыя. І не трэба думаць, што калі Лукашэнка сыдзе, усё адразу скончыцца хэпі-эндам.

***— Ці не падалося вам, што за апошні год людзей, якія перайшлі на беларускую мову ці сталі ёю цікавіцца, стала значна больш?***

— Я бы сказаў, што ўвогуле ў людзей, якія бралі ўдзел ў мінулагодніх палітычных кампаніях, з'явіўся інтарэс да Беларусі, як да краіны, нацыі. Беларусы пачалі цікавіцца сваёй гісторыяй, шмат у каго проста расплюшчыліся вочы на сваю ўласную краіну. І мова толькі адзін з элементаў светапогляду. Гэта адзін з краеўгольных камянёў, як і беларуская гісторыя, беларуская нацыя, беларуская дзяржаўнасць.

Гэтыя людзі фактычна абудзіліся, зацікавіліся беларускай праблематыкай. І гэта вельмі пазітыўная тэндэнцыя, бо яна не скончылася цяпер. Напрыклад, мы бачым як за апошні год выраслі аўдыторыі тэлеграм-каналаў беларускамоўных СМІ. Гэтыя людзі нікуды не дзеліся, яны засталіся ў гэтым новым для сябе гравітацыйным полі.

**gazetaby.info**

НОБЕЛЕЎСКІ ЛАЎРЭАТ

# «ЛУКАШЕНКО САМ ДЕЛАЕТ ИЗ СВОЕГО НАРОДА ЕЩЕ БОЛЬШЕГО РЕВОЛЮЦИОНЕРА»

**Светлана Алексиевич стала одной из четырех нобелевских лауреаток, которые подписали открытое письмо к ЕС с просьбой о гуманном обращении с мигрантами, стремящимися попасть в Евросоюз через Беларусь. Кроме белорусской писательницы, обращение подписали лауреатки Нобелевской премии по литературе Эльфрида Елинек, Герта Мюллер и Ольга Токарчук.**

Сама Светлана Алексиевич то, что происходит внутри Беларуси и на ее границах, считает взаимосвязанным.

— Вдруг ты начинаешь понимать, что после того, что происходит в Беларуси, это уже последняя капля... Это же очень опасно, люди же там стреляют, пока в воздух, но могут скоро и друг в друга, — высказала опасения писательница в эфире «Дождя». — Конечно, эти люди — заложники, их обманывают. Многие из них продают, как пишут наши журналисты, свои дома, свои последние драгоценности со свадьбы. Их обманули, им сказали, что тут они спокойно придут к какой-то новой жизни.

Польша по-своему права. Они понимают, если откроют (границы — С.), то они не закроются. Самолеты будут везти все новых и новых людей...

Чудовищно, весь город Минск — это уже столица Ирака, везде эти люди. Стоят палатки в парках. Это тысячи людей.

Что делать? Должно быть усилие дипломатии всего мира, во всяком случае этого региона, европейской дипломатии, чтобы все-таки надавить на Путина и Лукашенко и заставить их как-то цивилизованно вести (отношения с миром — С.). Мы все-таки в XXI веке. Зачем все это варварство?

Все наши тюрьмы заполнены людьми, которые избиты, детей забирают у родителей. Не могу забыть случай, который мне рассказали для новой книги, когда девочка вернулась из школы, а дома нет ни мамы, ни папы. И она в дневнике учительнице пишет: «Я повешусь, меня забирают в приют».

Изо дня в день слышишь какую-то совершенно нечеловеческую информацию о ситуации в Минске. А то, что происходит на границе, — это же порождение минских фантазий, это же лукашенковские фантазии. Это продолжение того же. Промолчала Европа, промолчала Россия, и даже защищала Лукашенко в том, что он творит это варварство. Вот он и показал, на что еще способен.

Возвращаясь к событиям 2020 года в Беларуси, в которых писательница и сама принимала участие, она объясняет, почему Координационный Совет не призывал людей к радикальным действиям.

— Во-первых, я очень горда за наших людей, особенно за молодых людей. Многих из них сажают на 6,7,10 лет колонии, и вот им в суде дают последнее слово — вы бы знали, какие это прекрасные слова! Какие это прекрасные люди — эти новые люди!

Пусть нас обвиняют, Координационный Совет, что мы были за шарики и цветы, дескать, цветами и шариками диктаторов не свергают. Но нам казалось, уже XXI век, и должны быть другие формы сопротивления, а не как в 17 году, брать почту и телеграф.

Нам казалось, что мы можем достать из людей какую-то другую энергию. И она действительно была. Я была среди этих людей на Маршах. Они не шли что-то поджигать или захватывать. Было ощущение праздника — оказывается, нас так много, оказывается, мы вместе. Когда я смотрела на этих людей, на их лица, было такое ощущение, что вот в этой стране я хочу жить. Я влюбилась в собственный народ в эти месяцы, в эти дни...

Я бы не хотела быть тем лидером, который поведет людей на кровь, — отметила Алексиевич.

В настоящее время она опасается угрозы в Беларуси гражданской войны.

— Да, мы ушли с улицы, но это все осталось у нас в голове, у нас в памяти, несмотря на ту жестокую травму, которую диктатор нанес своему народу, когда он избил собственный народ, поставил, как ему кажется, на колени. И в то же время он не может успокоиться, потому что видит, что люди

*(працяг на стар. 4)*

## НОБЕЛЕЎСКІ ЛАЎРЭАТ

*(пачатак на стар. 3)*

молчат, но они думают. И у него нет сил, чтобы что-то с этим сделать.

Наверняка, сейчас придут другие люди. Потому что Лукашенко сам делает из своего народа еще большего революционера, чем он был в августе. Сейчас люди уже не с шариками-цветочками пойдут. Думаю, что они пойдут, но я боюсь гражданской войны. Сейчас нет единой Беларуси, — говорит нобелевская лауреатка.

Рассуждая о будущем, она обращает внимание на опасность, которую вызывает союз Путина и Лукашенко.

— Я уверена, что не может быть долговечным что-то, что стоит поперек времени и прогресса. Я разговаривала с детьми-семиклассниками — и это уже революционеры. И сделала их революционерами именно эта ситуация. События с самолетом, сейчас мигрантский кризис— все это заставляет Европу понять, что это не только белорусская проблема, это становится проблемой Европы, это взрывает мир и стабильность в Европе... Но союз Лукашенко и Путина — это то, что делает Европу осторожной. Этот союз становится достаточно опасным. Они все больше становятся похожими друг на друга...

Диктатура — это примитивное создание, примитивное устройство. В России или у нас сейчас во главе люди, которые в 90-е годы не могли бы открыть рта, это было бы стыдно — произносить эти вещи. А сейчас это нормально, это философия государства сегодня...

Оказалось, что демократия, если она и была в Беларуси и России, — это такое хрупкое существо, его очень легко опять посадить в клетку и пользоваться только на вынос, когда едешь в Европу...

Мы безоружны против такого тотального зла, когда зло без правил, — сказала писательница.

Она призналась, что сама очень хотела бы вернуться домой и отметила, что гордится людьми, «которые остались там и с достоинством как-то проживают это время».

— Я думаю, что белорусы сегодня не хотят президента, они хотят парламентскую республику, они настолько испугались тому опыту, который они прожили за эти 26 лет, что навряд ли у нас будет президент. У нас будет парламентская республика, — заключила Светлана Алексиевич.

**gazetaby.info**

## ІНТЭРВ'Ю

# ІНТЭРВІЮ ВВС ЯК ЗАКЛЮЧНЫЯ КАДРЫ ДРЭННАГА ФІЛЬМУ

**Журботныя, тужлівыя, безнадзейныя чэргі ля «Валадаркі», «Амэрыканкі» і дзясяткаў іншых беларускіх турмаў не скарачаюцца, а толькі растуць.**

Для многіх, хто стаіць у гэтых чэргах, трымаючы ў руках няхітрыя перадачы з харчоў і цёплых рэчаў, жыцьцё замерла пасьля арыштаў блізкіх і родных. Колькі надзеі жыло ў гэтых чэргах усе апошнія месяцы — на тое, што вось-вось каток рэпрэсій спыніцца, што рэжым прымусяць да амністыі і яны нарэшце ўбачаць сваіх блізкіх на свабодзе.

І як балюча гэтым людзям асэнсоўваць, што час вызваленьня хаваецца недзе ў смузе няпэўнай будучыні. А тое, што рэжым не дамогся свайго ў спэцаперацыі зь мігрантамі, для іх асабіста надзеі зусім не дадае.

З карэспандэнтам BBC Стывэнам Розэнбэргам Аляксандар Лукашэнка размаўляў так, нібыта перад ім не журналіст, а ўвесь ненавісны калектыўны Захад у адной асобе, які замахнуўся на ягоную асабістую ўладу. Рэдка калі раней яго можна было бачыць падчас інтэрвію такім азлобленым, раздражнёным, нецярплівым і нецярпімым.

Зь ягоных рэплік, поўных варожасьці і нянавісьці да сваіх палітычных апанэнтаў, стала ў агульных рысах зразумела, што чакае беларусаў у бліжэйшыя месяцы.

Пералік прыблізна такі:

ніякіх перамоваў са «здраднікамі»

палітвязьняў у Беларусі няма — ёсьць крымінальнікі

каго са «здраднікаў» не ліквідавалі — ліквідуем у найбліжэйшы час; выражам усіх мярзотнікаў, якіх вы фінансавалі

санкцый не баімся, што нам трэба прадаць — прададзім; і з кожным днём будзем жыць усё лепш.

Лукашэнка даваў гэтае інтэрвію, ужо ведаючы, што спэцапэрацыя зь мігрантамі практычна правалена. І рэжым не атрымаў і не атрымае тых дывідэндаў, на якія разьлічваў. Дзьве тэлефонныя размовы з фраў Мэркель, якія, па сутнасьці, нічога канкрэтнага і рэальнага не прынесьлі, — ня той барыш, які б апраўдваў такія калясальныя намаганьні.

Так, спробы перакідаць мігрантаў праз мяжу яшчэ працягваюцца, лягер у лягістычным цэнтры ля Брузгоў пакуль існуе, але гэта хутчэй рэшткавая зьява. Заключныя кадры дрэннага фільму. Проста трэба ж некуды падзець тыя некалькі тысяч зьвезеных з Блізкага Ўсходу няшчасных людзей. Тым больш што Беларусь ужо засыпае сьнегам. Цяжка ўявіць, што магчыма зноў арганізаваць дэмаралізаваны і застуджаны натоўп на нейкае падабенства таго штурму, што быў наладжаны ў Брузгах у сярэдзіне лістапада.

Ніякай заўважнай шкоды сумежным зь Беларусьсю краінам Эўразьвязу гэта ўжо не прынясе. І палякі, і літоўцы навучыліся эфэктыўна супрацьстаяць штодзённым начным вылазкам. На мяжы сканцэнтраваныя вялікія сілы пры маштабнай падтрымцы многіх краін Эўразьвязу і НАТО.

Агрэсіўных «турыстаў» хутка ловяць і выправоджваюць назад. Сяго-таго затрымліваюць і прыцягваюць да адказнасьці. Асобных — без празьмернай доўгіх працэдураў выпраўляюць на радзіму. У публічных выступах польскіх і літоўскіх афіцыйных асобаў усё больш стрыманага аптымізму і пераможных нотак. Так, крызіс яшчэ не завяршыўся, але ў ягоным выніку ўжо мала хто сумняецца.

І ў любым выпадку — ніякіх палітычных перамоваў, гандлю з Лукашэнкам на гэтую тэму Эўразьвяз ужо весьці ня будзе. Самая апошняя заява на гэтую тэму міністра замежных справаў Польшчы Зьбігнева Раў: Варшава гатовая абмяркоўваць міграцыйны крызіс з Масквой. Зь Менскам — толькі «тэхнічныя пытаньні на тэхнічным узроўні».

**Больш санкцый — больш палітвязь-няў**

Сам Лукашэнка прайграваць не прывык і ўспрымае падобныя правалы надзвычай хваравіта. Ягоная звычайная тактыка: біць, зьнішчаць апанэнта, якога ён лічыць слабаком. Раней гэта, як правіла, прыносіла посьпех, і ён рана ці позна дамагаўся свайго. Цяпер, выглядае, насталі іншыя часы.

Чым ён адкажа Захаду? Ужо адказаў: «Мы выражам усіх мярзотнікаў, якіх вы фінансавалі». А многія ж разьлічвалі на тое, што праз паўтара года рэпрэсій ён супакоіцца, што пасьля здушэньня пратэстаў надыдзе адліга...

Тэзіс Іосіфа Сталіна пра «абвастрэньне клясавай барацьбы па меры набліжэньня да сацыялізму» працягвае працаваць. Можна толькі здагадвацца, чыя чарга настане цяпер, калі асноўная маса найбольш актыўных удзельнікаў пратэстаў 2020 году ўжо за межамі Беларусі.

У сацсетках усё больш паведамленьняў пра тое, што рэпрэсіі распаўсюджваюцца на тых, хто падпісваўся за альтэрнатыўных кандыдатаў, чый удзел у маршах вылічылі па білінгу тэлефонаў... Вось пазвальняюць, паарыштоўваюць, выштурхнуць за мяжу ўсіх — і тады ўжо «будуць жыць усё лепш».

Як паводле Сталіна «Ў нас няма ваеннапалонных, у нас ёсьць толькі здраднікі», гэтаксама сёньня ў Лукашэнкі: «Тыя, хто ўцяклі за мяжу — гэта не апазыцыя, гэта здраднікі». А хто ня ўцёк — тыя ў турмах. (І павінны ўспрымаць гэта як належнае, «бо ўсе рэвалюцыянэры прайшлі цяжкі шлях».)

...Афіцыйна абвешчаны ў Беларусі «Год народнага адзінства» адлічвае апошнія тыдні. Лічба палітвязьняў набліжаецца да 900.

**Валянцін Жданко**
**www.svaboda.org**

## КРЫЗІС

# ЛУКАШЭНКА РЫЗЫКУЕ СТРАЦІЦЬ РЭШТКІ ЭЛЕКТАРАТУ

**Што павінны адчуваць прыхільнікі Лукашэнкі, якія дзесяцігодзьдзямі жывуць паняцьцямі «парадку», «чыстых вуліц» і «мірнага неба», назіраючы, як мігранты беспакарана разбураюць ходнікі і кідаюць камянямі ў паліцыю пры поўнай падтрымцы беларускіх сілавікоў?**

«Мігранцкі крызіс» быў патрэбны менскаму рэжыму для вырашэньня сваіх палітычных праблемаў зь легітымнасьцю — і, як выглядае, доўгатэрміновыя электаральныя наступствы цяперашнюю ўладу ня вельмі хвалявалі. Урэшце, даўно ўжо гучыць думка, што меркаваньні беларусаў гэты рэжым ужо ў прынцыпе не турбуюць.

Проста ў некаторыя крытычныя моманты ўлада мусіць рабіць тое, што безумоўна не супадае зь нейкімі глыбіннымі настроямі нават яе «жалезнага» электарату, — але грамадзкую думку даводзіцца ігнараваць дзеля нейкай канкрэтнай тактычнай мэты.

Мяркуйце самі. Я не люблю слова «ксэнафобія» — яно занадта часта выкарыстоўваецца неабгрунтавана, і праз гэта яго значэньне і сутнасьць размываецца. Але факт у тым, што ў большасьці беларусаў існуе пэўны недавер, скажам мякка, да людзей з рэгіёну Блізкага Ўсходу; а па-другое, існуе пераважна нэгатыўнае стаўленьне да мігрантаў, якія імкнуцца трапіць у Эўропу

Так, падчас мігранцкага крызісу 2015–16 году 60 працэнтаў апытаных беларусаў адказалі, што мігрантаў нельга пускаць у Эўропу. Далей, працытую з артыкула Дракахруста пра стаўленьне да розных нацыянальнасьцяў, — «Самым блізкім этнасам былі расейцы, наступныя за імі — украінцы і палякі, потым народы краінаў Эўропы, амэрыканцы і габрэі. А далей — прорва, апытаньні дэманстравалі гіганцкую сацыяльную дыстанцыю з выхадцамі з Азіі і Афрыкі, і адным з самых далёкіх беларусам этнасаў былі арабы, якія складаюць значную долю цяперашняй мігранцкай плыні, якая ідзе праз Беларусь».

І што мы бачым апошнія тыдні? У дзяржаўнай прапагандзе людзі з тых рэгіёнаў, найбольш далёкія і незразумелыя беларусам, абвяшчаюцца лепшымі сябрамі, нявіннымі ахвярамі Захаду; прадстаўнікі Блізкага Ўсходу проціпастаўляюцца заходнікам як станоўчыя героі адмоўным.

… Усе сацыялягічныя апытаньні паказваюць, што касьцяк прыхільнікаў Лукашэнкі — гэта прыхільнікі жорсткага парадку. Гэта тыя людзі, якія апраўдвалі нават бесчалавечныя паводзіны сілавікоў у жніўні 2020 году, рэпрэсіі супраць людзей у 2021-м — бо ўсё ж дзеля «парадку», дзеля «краіны». «Парадак», «чыстыя вуліцы» і «мірнае неба над галавой» — гэта бессэнсоўная прапагандысцкая трыяда, якая зараз актыўна падрываецца дзеяньнямі мігрантаў сумесна зь беларускімі сілавікамі.

Як павінны глядзець прыхільнікі Лукашэнкі, сілавікоў і «парадку» на тое, як мігранты парушаюць усе магчымыя беларускія законы пры поўным спрыяньні беларускіх сілавікоў? Яны знаходзяцца ў памежнай зоне, дзе знаходзіцца нельга, яны сьпілоўвалі там дрэвы, яны спрабавалі гэтымі дрэвамі тараніць польскую мяжу, прабіваць памежны плот. Яны адкрыта жадаюць перайсьці мяжу нелегальна, у абыход усіх беларускіх і польскіх законаў. А апошнія дні яны ў жывым эфіры разьбіраюць ходнікі і кідаюць камянямі ў паліцыю.

І гэта ў дзяржаве, дзе саджаюць на рэальны тэрмін за сарваную маску зь сілавіка, дзе саджаюць за чырвоныя кеды і шкарпэткі, дзе даюць суткі за добрыя словы пра свайго выкладчыка на выпускным вечары.

Вы, магчыма, скажаце, што ўсё гэта даўно ня важна, бо сапраўдныя прыхільнікі Лукашэнкі настолькі замбаваныя, што будуць падтрымліваць яго, што б ён ні рабіў. Не зусім так. Мы маглі назіраць, як з прычыны пэўных дзеяньняў улады ад электарату Лукашэнкі адвальваліся ладныя кавалкі.

У 2017 годзе — пасьля антыдармаедзкага ўказу. У 2020 годзе — пасьля пагардлівага стаўленьня Лукашэнкі да ковіду і ягоных ахвяраў, пасьля парадаў лячыцца трактарам, хакеем і гарэлкай. Летам 2020-га — пасьля арышту прэтэндэнтаў у прэзыдэнты, перад выбарамі. Усё гэта адслойвала ладныя ільдзіны ад айсбэрга пад назвай «давер да Лукашэнкі».

Мігранцкая атака, ды яшчэ ў такой форме, пярэчыць усім глыбінным каштоўнасьцям і ўстаноўкам кансэрватыўных прыхільнікаў Лукашэнкі. Можна канстатаваць, што цяперашні рэжым ігнаруе пачуцьці нават сваіх самых зацятых прыхільнікаў.

**Віталь Цыганкоў**

**Заснавальнік і рэдактар:** Станкевіч Георгій Мікалаевіч

**Адрас рэдакцыі:** Бешанковіцкі раён, в. Старыя Ранчыцы, e-mail: stan62@list.ru, тэл. 60237, маб. +375292184739
Газета выдаецца з сакавіка 2005г.

**Падпісана да друку 28.11.2021 у 16.45**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на ўласным абсталяванні.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.